

Царква ў Беластоцкай Акрузе

ваць і працаваць для таго, каб некалькі сот людзей — мяшкоў з грашыма — магло раскошна жыць.

Нямеччына прыглядалася да гэтага шмат стагодзьдзяў і, абараняючы свае жыцьцёвыя правы, усё больш станоўка й энэргічней дамагалася ўдзелу ў багацьцях зямлі. Сьвет багатых ня чуў, аднак, сьвету бедных. У саюзе з Намеччынай стаіць шмат народаў, якія таксама ня хочуць быць выключанымі ад багацьцяў гэтае зямлі. Правадыр Адольф Гітлер хоча, каб усе людзі й народы, якія жывуць ў Эўропе, маглі спакойна й мірна працаваць і каб іх жыцьцё было забясьпечана. Правадыр Адольф Гітлер вызваліў Вас ад біча бальшавізму, ад уціску бальшавіцкае сыстэмы. Ужо больш ніколі ня здарыцца, каб праз кожныя некалькі дзесяткаў гадоў жыды дэмакрацыяў і бальшавізму маглі кідаць народы ў вайну. Нямецкі народ працягвае руку кожнаму, хто гатоў ісьці шляхам парадку, адбудовы й лепшае будучыні. Ён вядзе вайну ня толькі для сваіх уласных мэтаў, але й за тых, хто працуе ў занятых абшарах. Гэтыя народы пасьля вайны будуць далей вясьці ў міры сваю працу. За гэта вядзе Нямеччына сучасную вайну. Таму кожны з нас павінен сумленна выканваць свае абавязкі ўсюды там. дзе ён працуе.



# Упарадкаваная управа ў Беластоцкай Акрузе

Напісаў урадовы галоўны раднік пры Шэфе Цывільнае Управы Др. Л я л л я

Калі нямецкія ўлады пасьля вялікіх ваенных посьпехаў Нямецкае Арміі супроць бальшавікоў пераймалі Беластоцкую Акругу, то гэта значыла, што трэба было ізноў нанова адбудаваць адміністрацыю. Бо-ж пасьля паўтарагадовага савецкага панаваньня на гэтым абшары наўрад ці засталося нешта ў тэхнічна-адміністрацыйным сэнсе, што з эўропэйскага гледзішча можна было-б пераняць і вясьці далей.

Ацэньваючы нямецкую адбудову, нельга забывацца аб тым, што на працягу якіх двух гадоў Беластоцкая Акруга была два разы месцам ваенных дзеяньняў, і што такім чынам вайна пакінула ў гэтым абшары свае сьляды.

Як першае мерапрыемства новай адбудовы, мусіла нямецкая ўправа ў Беластоцкай Акрузе засноўваць свае адміністрацыйная ўрады, таму што прадумовай кожнае адбудовы зьяўляецца пляновая работа адміністрацыі.



Дом цывільнай управы Беластоцкай акругі

Тое, што нямецкая ўлада ў суцэльнасьці сваёй работы дастасоўваецца да ўмоваў татальнае вайны — зьяуляецца само па сабе зразумелым; бо-ж усе новаздабытая й занятыя абшары арганізацыйна мусяць быць уключаны й уцягнуты ў вялікі ваенны апарат, а тым самым у ваенную гаспадарку Нямеччыны.

Шэфам Цывільнае Управы на Беласточчыну, гэта значыць на Беластоцкую Акругу, быў вызначаны Надпрэзыдэнт і Гаўляйтар Усходняе Прусіі, Эрых-Кох, які зьяўляецца адначасова Райхскамісарам на Украіну. З свайго боку Надпрэзыдэнт Эрых Кох паклікаў мужоў з Усходняе Прусіі й даручыў ім адбудовы й новае адбудаўніцтва ў Беластоцкай Акрузе.

Беластоцкая Акруга была падзелена на паветы, якімі кіруюць павятовыя камісары. Пасьля розных перааргнізацыяў у сучасны мамэнт існуе сем наступных паветаў: Беластоцкі, Горадзенскі, Ломжынскі, Граеўскі, Сакольскі, Ваўкавыскі і Бельскі, да чаго даходзіць яшчэ гарадзкі абшар Беластоку на чале з гарадзкім камісарам. Паветы падзелены ў сваю чаргу на амтскамісарыяты (валасныя раёны), якімі кіруюць амтскамісары. Гарадамі кіруюць бурмістры.

Павятовыя ўправы абхопліваюць адпаведна да нямецкага арганізацыйнага пляну патрэбныя для ўправы павету аддзелы і ўрады. Сярод гэтых урадаў асабліва важнай для сялянства зьяляецца павятовы сельска-гаспадарскі аддзел, які кіруе і рэгулюе як вучотам і распадзелам, гэтак і вытвараньнем сельска-гаспадарчых прадуктаў. У амтскамісарыятах пры боку ў Амтскамісара на сельска-гаспадарчым сэктары стаяць агрономы (Ландбэртшафтэр), якія ў паасобных паветах працуюць і ў якасьці акруговых агрономаў.

За утрыманьне бязьпечнасьці й парадку, за забясьпечаньне выконваньня выдаваных законаў, распараджэньняў і прадпісаньняў нясуць адказнасьць Урады Паліцыі. Побач з урадамі паліцыі ў урадавай сядзібе Шэфа Цывільнае Управы і ў павятовых гарадох знаходзяцца пры амтскамісарах урады жандармэрыі, якія маюць расстаўленыя пасты жандармэрыі ў большых мясцох амтскамісарыяту.

Нямецкія адміністрацыйныя ўлады правядуць у Беластоцкай Акрузе цэлы рад арганізацыйных мерапрыемстваў, дзякуючы якім магла-б быць пляновая ўправа. Усё насель-





Абразак з Гродна

ніцтва Акругі мусіць быць сьпісана пагалоўна, бо папярэднія рэгістрацыі згінулі дзякуючы ваенным падзеям і чатырохразовым зьменам дзяржаўнай улады. Кожны жыхар бяз увагі на яго нацыянальнасьць, мусіць быць запісаны нямецкімі адміністрацыйнымі ўладамі, і мець асабовую пасьведку з фатаграфійнай карткай. Гэтую пасьведку ён атрымае на падставе перапісу. Разам з перапісам уводзіцца таксама абавязак мэльдаваньня (за — і вымэльдаваньня) пры зьмене месцапражываньня й зьмене працы. Выдаюцца таксама розныя прадпісаньні й праводзяцца мерапрыемствы ў санітарнай і гігіенічнай галіне, бо толькі гэткім чынам можна запабегчы заразным захварэньням і эпідэміям або абмежваць іх да мінімум! З гэтых распараджэньняў трэ' было-б зазначыць распараджэньне аб піцьцявой вадзе. Паліцыя аховы здароўя мае заданьне ня толькі забясьпечваць выкананьне гэтых гігенічных і санітарных распараджэньняў, але таксама прыймаць меры, якія знаходзяцца ў грамадзкім інтарэсе.

Спэцыяльную галіну ў Беластоцкай Акрузе прадстаўляе сабой дысцыпліна руху, якую вясковае насельніцтва па старай звычцы не захоўвае. Пад нямецкай управай дарогі разбудоўваліся, і адбудоўваліся як ніколі гэтага ня было ў Акрузе і мірныя часы. Рух па галоўных шляхох аблічаны пераважна на далёкі рух, г.з. маторы і таму, напр. фурманкі ня маюць чаго езьдзіць па сярэдзіне дарогі, а павозкам, якіх вазьнік сьпіць і кідае каня самога ісьці дадому, зусім не можа быць мейсца на шасэ. Для ўпарадкаваньня руху і для таго, каб унікнуць нешчасьлівых выпадкаў, неабходна таксама, каб усе павозкі мелі адпаведнае сьвятло, а з наступленьнем сутунку жывіна

і стады гусей ня могуць пасьвіцца ў прыдарожных равох — стуль ім легка трапіць і на шасу, дзе яны прадстаўляюць небяспеку для прахожых, ня кажучы ўжо аб стратах уласьніка.

Далейшай справай зьяўляецца выконваньне распараджэньня; аб зацямненьні. Хоць у сягоньняшнім часе даволі трудна з нафтай або часта яе й зусім няма і таму даўжэйшае асьвятленьне памешканьняў зусім адпадае, усё-ж такі неабходна выпаўняць распараджэньні аб зацямненьні ў інтарэсе самога-ж насельніцтва; бо пры налётах крыніцы сьвятла, да якіх залічвацца таксама слаба асьвятленыя вокны, зьяўляюцца добрымі аб'ектамі нападаў. Нападаючыя лятуны ня пытаюцца, ці ў гэтай хаце знаходзіцца нямецкі ўрад, ці там жывуць беларусы, або палякі. Нявыконваньне прадпісаньняў аб зацямненьні будзе сурова карацца.

З-за нібы-та атрымліванага зыску жыхары Акругі займаюцца ўсьцяж недазволеным гандлем і спэкуляцыяй. Яны спадзяюцца дзякуючы спэкуляцыйным цэнам у гандлі з-пад палы атрымаць вялікія даходы, забываючыся пры гэтым, што, купляючы тавары ў забароненым гандлі, яны прымушаны плаціць таксама спекуляцыйная цэны, а гэта зужывае даход, якога яны дабіліся за шмукляваныя тавары. Яны зусім забываюцца аб тым, што цэны, якія запрашваюць і плоцаць у забароненым гандлі з-пад палы, нарушаюць ровен цэнаў у адкрытам гандлі, і ў апошнім выніку само-ж насельніцтва ў цэлым найбольш адчувае нядолю таму, што цёмныя элемэнты, якія патаемна вядуць спэкуляцыю і забаронены гандаль, робяць на ім свае «гэшэфты». Нямецкая права правяла мерапрыемствы, каб галоўных заправілаў і эксплёататараў у забароненым гандлі — жыдоў, якія раней заўсёды набівалі сабе кішэні з працы сялянства, выключыць з гандлю. Характэрна, што ў меру ліквідацыі або закрыцьця гэтаў у Беластоцкай Акрузе на гэтак званым чорным рынку з дня на дзень падалі цэны.

Трэба адзначыць, што ўсялякія нарушэньні законаў і распараджэньняў і мерапрыемстваў нямецкае ўправы, якія выдаюцца ў мэтах утрыманьня бясьпечнасьці й парадку й харчовага забясьпечаньня насельніцтва, караюцца найбольш суровым чынам.

Ясна, што вайна вымагае шмат мерапрыемстваў, якія зьяўляюцца жорсткімі, а ў Беластоцкай Акрузе да таго часта яны яшчэ больш загостраныя тым, што тут двойчы разыгры-





Старая цэрква ў Беластоцкай Акрузе

валася навачасная вайна. Вайной таксама выклікана і тое што часта ў прадметах штодзеннай патрэбы ўведзены ня толькі агранічэньні, але адчуваецца і недахоп. Але ўсе гэтыя зьявішчы — гэта рэзультат вайны, жорсткай і цяжкай вайны, якая вядзецца супроць бальшавікоў і супроць схаваных за імі жыдоў, якія хочуць зьнішчыць і здушыць усё няжыдоўскае. Калі розныя элементы, спачуваючы праступніцкім бандам, якія сваімі нападамі, б'юць амаль заўсёды па мясцовым насельніцтве, спадзяюцца гэтым пашкодзіць нямецкай управе або нямецкаму ваеннаму апарату, то гэта вялізарная памылка. Напады праступніцкіх бандаў, якія амаль выключна складаюцца з дармаедаў і гультаёў і жывуць коштам мясцовага сялянства, адбіваюцца заўсёды толькі на мясцовым насельніцтве.

Нямецкая управа настолькі моцная, каб у дадзеным выпадку з найбольшай суровасьцю й цьвёрдасьцю навясьці парадак і запэўніць бясьпечнасьць. прычым той, хто спачувае праступніцкім бандам, будзе пазбаўлены ня толькі маёмасьці, але й жыцьця.

Ужо $1\frac{1}{4}$ гадоў працуе нямецкая ўправа ў Беластоцкай Акрузе. За гэты час нямецкая ўправа асягнула вялізарныя посьпехі, ня гледзячы на тое, што нямецкі народ увайшоў ужо ў чацьверты год вялікай вайны.

# Банды нарушаюць будаўніцтва і спакой

Напісаў Кіраўнік ϟϟ і Паліцыі на Беластоцкую Акругу Надкіраўнік ϟϟ Фромм.

На працягу менш чым двух гадоў абшар Беласточчыны два разы быў месцам ваеннае завірухі. Спачатку нямецкая пераможная армія разьбіла на голаву польскае войска, якое хацела за некалькі тыднаў быць перад самым Бэрлінам і біць там нямецкія войскі. Пасьля-ж нямецкія жаўнеры ў двух зьніштажальных бітвах адагналі Чырвоную Армію, якая гаксама хацела заваяваць і зьнішчыць Нямеччыну. Гэтая Чырвоная Армія ня толькі выгнана з Беласточчыны, але адкінута далёка да Волгі і на Каўказ.

На працягу гэтых двух гадоў у Беласточчыне зьмянялася аж чатыры разы дзяржаўная ўлада, а гэтым самым і формы адміністрацыі. У верасьні 1939 году нямецкія войскі зьмялі польскую адміністрацыю. Пасьля кароткага часу, калі адміністрацыя знаходзілася ў руках нямецкае арміі, гэты абшар адышоў на моцы давольнае ўмовы да Савецкага Саюзу. Але ўжо ў першых месяцах ваеннае расправы з камуністычным



На сваёй радзіме Украінцы, былыя чырвонаармісты, з паспехам ведуць барацьбу з бандытамі





Беларускі паліцыянт

варожым сьветам у восень 1941 году Беластоцкая Акруга ізноў апынулася пад нямецкай управай.

Для нармальнае адміністрацыі неабходны азначаныя галоўныя лініі і формы законаў, распараджэньняў і інструкцыяў. Ясна таксама й тое, што вайна—а асабліва адміністрацыя занятых і новаздабытых абшараў — вымагае й уласных формаў адміністрацыі. Чым больш дзяржава ўвасабляе сабой дзяржаву парадку, тым больш вымагаецца ёю пашанаваньне абавязваючых у ёй законаў, распараджэньняў е г. д. у дадзеным выпадку органы ўлады змушаны захоўваць парадак і супакой і пашанаваньне гэтых законаў і прадпісаньняў.

У часе вайны, асабліва ў абшарах, якія дзякуючы аружным посьпехам пераходзяць пад управу пераможнае дзяржаўнае ўлады, форма адміністрацыі дастасоўваецца не да мірных часоў, але да жорсткае сапраўднасьці вайны. Гэта цалком адпавядае вымаганьням, якія стаўляе вайна. Вайна вымагае ад кожнага агранічэньняў, ахвяраў і стратаў, і гэта ў яшчэ большай меры ў абшарах вайны або там, дзе прайшла вайна. Ясная рэч, што пераможная дзяржаўная ўлада адразу-ж падпарадкоўвуе новаздабытыя або занятыя абшары інтарэсам сваёй гаспадаркі — сваёй ваеннай гаспадаркі; гэта згодна ўжо нават з інстынктам самазахаваньня! Адбудова праводзіцца з пункту гледжаньня карысьцяў для далейшага вядзеньня вайны і для заканьчэньня вайны, пры чым вымагаецца, каб новаздабытыя або занятыя абшары самі сябе забясьпечылі. Гэта самае найменьшае, чым яны могуць прыняць удзел ў вайне.

Для кожнае адбудовы неабходным варункам ёсьць парадак і спакой. Калі іх няма або яны нарушаюцца, то гэтым самым падрываецца адбудова. Пашкоджаньні й перашкоды не нясуць толькі органы ўлады, як гэта часта фальшыва думаюць, але перадусім, і найчасьцей нават выключна, мяс-

цовыя жыхары занятых абшараў. Забурэньні, сабатаж і г. д. або нават толькі падтрымоўваньне іх, патураньне ім або нават толькі абыякавое адношаньне да іх зьяўляюцца мячом з двайным гастрыём, які часта б'е па ўласным целе.

Да польскага і беларускага насельніцтва Беластоцкае Акругі, акрамя нязначнае колькасьці ліцьвіноў у Горадзенскім павеце, дайшла яшчэ адносна вялікая колькасьць жыдоў, якія складалі ў большасьці меншых гарадоў Акругі звыш паловы ўсяго насельніцтва. Жыд цалком апанаваў гаспадарчае жыцьцё ў Беластоцкай Акрузе, а ў рамасьле ён таксама амаль сам веў усе справы. Асабліва вялікі ўплыў удалося здабыць жыдам за $1\frac{1}{2}$ гады савецкага «вялікалецьця» ў Беластоку. Тады як пад панаваньнем саветаў прамысловае, рамесьніцкае й гандлёвае жыцьцё было ўжо «нацыяналіза-

КІРАЎНІК ƷƷ І ПАЛІЦЫІ
пры
[illegible], Цэнтральная Управа
ва Беластоцкай Акрузе

Беласток, 16 кастрычніка 1942.

## АДОЗВА!

Пад дзеяньнем вайны, якая з незвычайнай сілай пранеслася над гэтай зямлёй, частка насельніцтва была змушана пакінуць свае памешканьні. Адны ўцякалі ў лясы, бо іх хаты былі зьнішчаны вайной, другія-ж хаваліся са страху перад немцамі.

Ужо больш году, як у гэтым краі ізноў настаў спакой. Бальшавікі больш не вярнуліся і ня прыдуць ужо больш ніколі. Аб гэтым дбаюць нямецкія жаўнеры, якія шмат тысячаў кілямэтраў адсюль змагаюцца над Волгай і на Каўказе, гэта значыць, бясконца далёка адсюль.

За час, у якім знаходзяцца тут нямецкія жаўнеры, Вы ўсе заўважылі, што мы робім усё, каб запэўніць Вам спакой, каб Вы маглі спакойна працаваць.

Шмат з тых, хто тады ўцёк, ужо даўно думае, як-бы вярнуцца ізноў да хаты. Гэтая думка мучае іх тымбольш, калі ізноў надходзіць халодная зіма з усёй яе жудасьцю. Мы хочам ім памагчы зрабіць гэты шаг.

Кожнаму, хто хаваецца яшчэ цяпер у лясох або ў іншым мясцы, ці-то ён стаў бандытам з палітычных або іншых прычынаў, МЫ ЗАПЭЎНЯЕМ, ШТО ЁН БУДЗЕ НЕ ПАКАРАНЫ, калі на працягу 3 тыдняў ён зявіцца у солтыса і здасьць яму сваё аружжа. У гэтым выпадку мы будзем старацца, каб яму даць памешканьне у роднай вёсцы, або дзе ён хоча, і там ён знойдзе работу. Шмат ужо вярнулася, яны ня былі пакараны і цяпер ізноў вядуць сваю працу.

**Таму выкарыстайце гэтую нагоду, якая Вам даецца толькі раз, і пасьледуйце гэтаму закліку.**

Кіраўнік ƷƷ і Паліцыі
**ФРОММ**
ƷƷ Штандаровы Кіраўнік

вана» пад жыдоўскім кіраўніцвам, у сельскай гаспадарцы, паскольні гэта датычыла драбнага землеўладаньня, «нацыяналізацыя» праводзілася павальней, так што вельмі нязначная частка пераважна сялянскага й дробна сялянскага насельніцтва акругі пазнала дабродзействы калектываў і то часта толькі ў найбольш лагоднай форме.

З увядзеньнем нямецкае адміністрацыі ў Беластоцкай Акрузе быў паложаны рашучы канец кіраўнічай ролі жыдоўства. Жыды былі пасаджаны ў гэтты або лягеры і ўключаны ў працэс працы. Яшчэ ёсьць шмат палякоў і беларусаў, якія спачуваюць жыдам.

Калі з аднаго боку быў зламаны або ўсунуты нямецкай адміністрацыяй палітычны ўплыў жыдоў, які праводзіўся дзякуючы фінансаваму панаваньню ня жыдоўскага насель-





Хадоўля авечак ў Беластоцкай Акрузе

забяспечваецца гэткага роду арганізацыйнай формай. Пытаньні загаспадараваньня й гаспадарскага кіраўніцтва большымі гаспадаркамі зьяўляюцца галоўнымі заданьнямі ў працы сельска-гаспадарчых інструктароў. Суадносіны ў Беластоцкай Акрузе розныя і гэта ў аднолькавай меры можна сказаць і аб паветах. Сельска-гаспадарчы інструктар павінен зьвяртаць увагу павятовага сялянскага кіраўніка на патрэбы аба нястачы, якія паводле яго зьяўляюцца найгалаўнейшымі. Павятовы Кіраўнік Сялянства ў дадзеным выпадку знаёміцца з справамі на месцы й вырабляе свой погляд на іх і вырашае або загадвае неабходныя мерапрыемствы. Пры гэтым трэба выслухаць і ацаніць думкі лепшых гаспадароў. З увагі на якасьць глебы і іншыя мясцовыя ўмовы мерапрыемствы неабходныя для ажыцьцяўленьня намечаных заданьняў, могуць быць то рознародныя або ізноў вельмі аднапітыя. Ці ў справе дастаўкі расавых плоднікаў, насеньня ўсялякага роду й сартоў, сельска гаспадарскіх машынаў і прыладаў, ці ў справе толькі лепшага вядзеньня сельскіх ці адміністраваных гаспадарак, сельска-гаспадарчы інструктар для селяніна Беластоцкае Акругі зьяўляецца найважнейшый асобай у сельска-гаспадарскіх пытаньнях. Абаснованыя й выканальныя жаданьні ў галіне сельскае-гаспадаркі, паскольні гэта знаходзіцца ў яго магчымасьцях і мае агульнае значэньне, будуць ім выпаўнены або павядомлены Павятоваму Кіраўніку Сялянства. З свайго боку, гаспадары пя-

вінны выпаўняць указаньні, выдадзеныя ім або вышэйшымі ўрадамі. Рэгуляваньне справаў праводзіцца мясцовым павятовым камісарам такім чынам, што селяніну няма чаго развažаць, ці гэта добра ці кепска. Ад шмат якіх звычаяў мусіць селянін Беластоцкай Акругі адвучыцца, чым гэта хутчэй адбудзецца, тым лепш будзе для ўсяго сялянства.

Гадоўля жыта і бульбы будуць стаяць ў Беластоцкай Акрузе заўсёды на першым месцы. Гэта, ясна, ня выключае, шта лепшыя глебы, якія ёсьць ня толькі ў Ломжынскім павеце, але і ў іншых паветах, можна засяваць пшаніцай або наагул пладамі, якія вымагаюць лепшае глебы.

Вялікае значэньне мае справа павялічэньне корму. Паводле падліку з дня 1.4.1942, якія, ясна, нельга лічыць у 100% дакладным, на 100 га загаспадараванае плошчы ў Беластоцкай Акрузе выпадае 35—40 штук вялікае жывёлы, тады як ува Ўсходняй Прусіі на такім самым абшары ёсьць 75—80 штук. Павялічэньне жывёлагадоўлі ў Беластоцкай Акрузе без папярэдняга павялічэньня кармавое базы было-б цалком памылковым. Згодна з навейшымі дадзенымі ў сялянскай гаспадарцы павінна быць акругла 20% лугоў. Але трэба глянуць на гэты «луг»! Гэта вярней быў ня луг, а пустыр. Таму жывёлу пасьвяць пераважна не на лугох, а на папары, у лясох і на ўзьмежках дарог. Усё, дзе толькі можна ўлезьці з плугам, выкарыстоўваецца пад пасеў, а на пашу пакідаецца найгоршая й бясплодная зямля. Каб прывясьці гэтыя выганы ў культурны выгляд, трэба шмат часу.

Ясна, што прывядзеньне неабходных мэльярацыйных работ, адвадненьне лугоў у большым засягу нельга выканаць у момант. Гэта ня значыць, што кожнаму трэба злажыць рукі і чакаць, пакуль ня прыдзе мэльярацыя. Наадварот, кожны павінен паруціцца сам, каб зрабіць, што магчыма, адваніць і палепшыць лугі, зьвярнуўшы на гэтую справу найбольшую ўвагу. У нязлічаных выпадках магчыма шляхам пракопваньня равоў з сенажаці з кіслай травой зрабіць надзвычай вартасную сенажаць, якая дае для гаспадаркі добры корм. Коратка кажучы, селянін павінен зрабіць усё, што толькі ён зможа, каб дабіцца найбольшых укосаў з сваіх сенажацяў. Кажучы наагул, трэба зьвярнуць увагу перадусім на зьбіраньне корму з поля. Тут галоўным чынам трэба адзначыць сэрадэлю і канюшыну на лягчэйшай глебе. Іх трэба больш засяваць. Яшчэ большае значэньне мае пасеў сэрадэлі ў жыце. Гадоўля кармавых расьлінаў у Беластоцкай Акрузе не без





Сушарня табаку

падставаў гэтак занядбана. Пры нязьлічанай колькасьці малых і дробных гаспадарак у акрузе налічваецца вельмі шмат гаспадарак, велічыня якіх ледзь хапае, каб пракарміць сям'ю. Пераводзячы разьвядзеньне корму на полі, хутка прыходзіцца сьцьвердзіць, што і там існуе рубеж. Гэтым паіменна робіцца пэўны ўбытак для пасеваў збожжа. Тут усю справу ратуе якраз пасьлядоўны пасеў сэрадэлі паміж жытам. Трэба толькі дапільнаваць, каб сэрадэля была ўсеяна ў жыта так, каб яна змагла яшчэ нарасьці. Спачатку, гэта значыць некалькі тыдняў пасьля высеву, сэрадэлю ледзь можна ўгледзіць і гэтак яна існуе, як ледзь прыкметная расьлінка. Але як толькі здымецца галоўны пасеў, лёгкі дождж робіць проста цуды, і сэрадэля вельмі хутка пакрывае ўсё поле, як пушысты дыван. Прадумовы для развадзеньня сэрадэлі наагул ёсьць. Сэрадэля расьце добра. Назіраньні, якія я правёў у гэтым годзе ў Беластоцкай Акрузе, даюць падставы спадзявацца, што сэрадэля будзе добра расьці ўва ўсёй Беластоцкай Акрузе. Гэткім шляхам можна будзе здабыць частку корму для жывёлы. Сэрадэля ў мяшаным пасеве дае нармальна надзвычай добрую асеньнюю пашу. Апрача таго, значную частку засеянае гэткім чынам сэрадэлі можна высушыць і выкарыстаць як корму на зіму. Важнай справай зьяўляецца таксама летні абсеў папараў. Тут могуць нязвычайна прыслужыцца віка, гарчыца або тая-ж сэрадэля. Якое значэньне прыдаецца якраз гэтай справе, паказваюць апошнія дадзеныя аб ужыткоўнасьці зямлі. З іх відаць, што кармовыя расьліны

ў Ломжынскім павеце займаюць 11,39% поля, а ў Ваўкавыскім павеце 1,99%, папару — ж у Ваўкавыскім павеце 35,8%, а ў Ломжынскім — 13,23%.

Надзвычай слаба прадстаўляецца справа разьвядзеньня карняплодаў. Выключаючы бульбу й агародніну, яны не складалі нават 1% пасяўное плошчы, а ў Ваўкавыскім павеце нават толькі 0,12%. Калі вясной гэтага году гэты стан яшчэ ня быў выяўлены з усёй выразнасьцю, бо ня было дадзеных аб засеве зямлі, то ўсё-ж былі зроблены прыгатаваньні, каб і тут палажэньне зьмяніць. Нажаль, перашкоды ў забяспечаньні насеньнем былі настолькі вялікія, што гэты стан нельга было ў вялікай меры палепшыць. Праведзеныя ў гэтым часе мерапрыемствы дазваляюць спадзявацца, што наступнай вясной у гэтай галіне наступіць зьмена. Перадусім трэба павялічыць пасевы звычайнай бручкі, бо яна лепш расьце, чым кармавая бручка, бяз большага азотнага ўгнаеньня. Але звычайная бручка патрабуе круху хлеўнага гнаю. Тут зноў тыя-ж самыя труднасьці, якія адзначаецца акруга з гаспадарчага боку. Мала корму, таму адносна мала жывёлы і таму і зноў мала гною! Гэтыя справы так ці інакш павінны быць разьвязаны. Ня можна, ясна, зашмат хлеўнага гною выкідаць на карняплоды, але ўсё-ж магчымае трэба зрабіць але так, каб не пацярпелі іншыя пасевы. Дзе магчыма, трэба пакрываць гэты ўбытак зялёным гноем. У павышэньні ўсялякае прадукцыйнасьці найбольш перашкаджае вялікая колькасьць маленькіх гаспадарак, якія могуць існаваць толькі тады, калі ўсялякім чынам імкнуцца ўвясьці добрае загаспадараваньне, вымаганае нямецкім кіраўніцтвам. На вялікіх зямельных плошчах шмат лягчей праводзіць мерапрыемствы ў мэтах павялічэньня прадукцыйнасьці, чым на маленькіх, нязьлічных гаспадарках. Ня гледзячы на высілкі і стараннасьць іх гаспадароў, апошнія нярэдка лічаць неабавязкавым і непатрэбным тыя ці іншыя мерапрыемствы.

Фюрар Вялікаянямецкага Райху ў аднэй сваёй вялікай прамове сказаў, што нямецкаму арганізацыйнаму таленту, нямецкай стараннасьці й нямецкай здольнасьці ўжо ўдалося мэтазгодна зужыткаваць заняты абшар на Ўсходзе. Інакш кажучы, гэты абшар можна разглядаць толькі пад пэўным кутом гледжаньня, а іменна — ён павінен служыць, каб гэтая вайна закончылася пераможна для нямецкага народу, а ў будучыні гэты абшар будзе мець важны ўдзел у аб'еднанай Эўропе.





Тыпічны абразак з Беласточчыны з узкімі палеткамі

Калі сельска-гаспадарчае насельніцтва Беластоцкае Акругі пасьледуе за прыкладам нямецкіх сялян, то будуць ня толькі дастаўляцца ў Нямеччыны прадукты Акругі, але і ўсё насельніцтва Акругі будзе з гэтага мець карысьць. Сялянская гаспадарка Вялікага Нямецкага Райху надзвычай павялічыла свае высілкі. Дзеля гэтага сельска-гаспадарчае кіраўніцтва Беластоцкае Акругі, акое даручана надпрэзыдэнтам Эрыхам Кохам Краёваму Кіраўніку Селянства, не дапусьціць разважаць аб мэтазгднасьці таго ці іншага мерапрыемства, а вымагае ад насельніцтва безварунковага выканваньня выдадзеных распараджэньняў. Пры гэтым вядзецца й будзе вясьціся праца ў тым напрамку, каб, як кажуць, з прыкладамі ў руцэ даказаць мэтазгоднасьць дадзеных распараджэньняў. Стварэньне прыкладных гаспадарак мае на мэце не правядзеньне экспэрымэнтаў, аб выніку якіх заўсёды трудна нешта пэўнае сказаць. Перадусім гэтыя прыкладныя гаспадаркі прызначаны для таго, каб ува ўсіх падрабязнасьцях, ці-то ў галіне жывёлагадоўлі, ці-то апрацоўкі зямлі, вырашчываньня спэцыяльных культураў і г. д. пазнаёміць селяніна з найбольш мэтазгоднымі мэтадамі, якія улічваючы мясцовыя варункі, прывядуць да як мага найбольшых вынікаў.

# Заданьні жывёлагадоўлі ў Беластоцкай Акрузе

Напісаў галоўны сельска-гаспадарчы раднік Адам — кіраўнік ураду зямельнага гаспадараваньня Усходняе Пруссія — Беласток і Ціхэнаў.

Глеба і клімат у надзвычай вялікай меры ўплываюць на жывёлагадоўлю ўсяе мясцовасьці. Сьвядомыя адносіны насельніцтва да гэтае справы, тае ці іншае мясьцовасьці, таксама могуць дадатня адбіцца на стане жывёлагадоўлі. Трэба прызнаць, што ў Беластоцкай Акрузе, у мамэнт увядзеньня тут цывільнае ўправы, у галіне жывёлагадоўлі ня было дастаткова яснага малюнку.

Тое-ж самое датычыла й гадоўлі коняў, хоць можна сказаць, што палажэньне, якое засталі тут немцы ў гэтай галіне, было куды лепшае, чым у стане гадоўлі быдла й сьвіньняў, ня кажучы ўжо аб гадоўлі авечак. Гэта можна вытлумачыць у значнай меры тым, што насельніцтва па розным прычынам лічыла каня асабліва любімай жывінай. Дзеля гэтага старанны дагляд і абходжаньне з канём у Беластоцкай Акрузе не заўсёды выклікана неабходнасьцю яго ў гаспадарцы. Часта з надзвычай благімі й заморанымі коньмі сяляне абходзяцца з гэткай любоўнасьцю, што толькі любімец можа заслугоўваць на такое чулае трактаваньне. Вялікая колькасьць вузкагрудых, нізкарослых жарабцоў з ападзістымі хрыбтамі вымагае і ў гадоўлі коняў усоўваць неадпаведны матарыял. Адбор жарабцоў, які праводзіцца па паветам, і гэнэральны адбор на працягу зімы будуць спрыяць, што ў гадоўлі коняў зьнікнуць неадпаведныя жарабцы, а астануцца толькі такія жарабцы, якія будуць адпавядаць свайму прызначэньню. Адборы, якія ўжо мелі месца, даказалі, што ўжо найвышэйшы час і ў галіне гадоўлі коняў увесьці ў жыцьцё прынцып, што «добрае зьяўляецца ворагам благога». Вузкагрудых і зусім няпрыдатных жарабцоў трэба вылягчыць. Добрыя, мясцовыя жарабцы будуць далей ужывацца, бо асабліва ў Беластоцкай Акрузе маюць усе падставы да гадоўлі мясцовыя, загартаваныя пароды. У некаторых паветах акругі заведзены ўсходняпрускія жарабцы (цёплакроўныя). Гэта ня зусім вялікія, але моцныя жарабцы, якія спрыяюць удасканаленьню пароды коняў у акрузе. Запатрабаваньне коняў вялікае, а таму пры падборы жарабцоў і пры дапушчэньні кабыл пажадана выбіраць перадусім іх ня толькі з гледзішча жывёлагадоўлі, але асабліва з увагі на іх расавыя ўласьцівасьці. Справа палягае галоўным чынам у тым, каб, пазбыўшыся дрэнных вогераў і падбіраючы добрых вогераў, глядзець перадусім не на колькасьць, а на якасьць. Аплату за давадзяньне такія, што кожны селянін Беластоцкае Акругі зможа давясьці сваю кабылу да жарабца.

Як ужо было сьцьверджана на пачатку, селянін Беластоцкае Акругі лічыць каня сваёй улюбленай жывінай і даглядае яго, як свайго найлепшага прыяцеля. Памінаючы тую небясьпеку, якая заўсёды сама па сабе вынікае з занадта чулага дагляду ўлюбленьнікаў, у дадзеным выпадку з чыста гаспадарчага боку цалком неправідловы гэткі перарост гадоўлі коняў у вадносінах да гадоўлі быдла. Калі ў галіне гадоўлі коняў у Беластоцкай Акрузе ўдалося выгадаваць пароду каня, якая ў вялікай меры адказвае патрэбным вымаганьням, го нельга сказаць, каб гэта было асягнута ў жывёлагадоўлі наагул. Трэба дадаць яшчэ, што груднасьці, якія перашкаджаюць аднолітай накіраванасьці жывёлагадоўлі, сапраўды, не малыя. Відаць, што рашучыя спробы выгадаваць жывёлу, прыстасаваную да варункаў Беластоцкае Акругі, наагул не прадпрыймаліся. Можна заўважыць толькі ледзь ухопныя сьляды, якія сьведчаць, што ў гэтым напрамку наагул нешта рабілася. З гаспадарчага гледзішча быдла для селяніна наагул зьяўляецца найбольш цэннай жывёлай. Яно зьядае саломістую пашу і пры ўмелым кармленьні й добрым памяшчэньні дае шмат малака, вытварае гной, каб, урэшце,







Такія огеры, якія сустрэкаем у Беласточчыне, не патрэбныя для хадоўлі

даць даход, як цэннае быдла на ўбой. У Беластоцкай Акрузе ёсьць сяляне, якія ўжо гэта добра зразумелі. Гаспадаркі гэтых сялян належаць да найлепшых гаспадарак у Беластоцкай Акрузе. Нажаль, такіх сялян адносна мала. Трэба зрабіць усё, што толькі можна, каб гэтыя прымітыўныя паняцьці аб эфэктоўнасьці жывёлагадоўлі і яе стане падняць і прабудзіць у сьведамасьці сялян. З гледзішча жывёлагадоўлі неабходна распаўсюдзіць быдла, дастаткова загартаванае й ня маючае вялікіх вымаганьняў адносна пашы, якое магло-б быць у адносна прымітыўнах хлявох і давала-б найбольшую карысьць. Асабліва гэтага вымагаюць надзвычай слабая кармавая падстава і іншыя абставіны. Загартаванае, мала вымагаючае, чырвонае быдла сярэдняй вагі зьяўляецца найбольш датарнаваным да ўмоваў Беластоцкае Акругі. Ломжынскі і Граеўскі паветы, з лепшай глебай і шырэйшай кармавой падставай, зьяўляюцца ў дадзеным выпадку вынняткамі. У гэтых абодвух паветах, як у нізінных абшарах, можна гадаваць з посьпехам або трымаць чорна-белае быдла. Дзякуючы прывозу дастасаваных да мясцовых варункаў быкоў і кароў з Усходняе Прусіі ў недалёкай будучыні можна будзе асягнуць стан, які можна наагул асягнуць у гэтых паветах.

Як у гадоўлі конаў, так і ў жывёлагадоўлі патрэбны даволі даўгі час для выгадаваньня расы, каб можна было сьцьвердзіць відочныя поступы. Зусім інакш прадстаўляюцца справы ў гадоўлі сьвіньняў. На працягу адносна кароткага часу можна выгадаваць сьвінскую расу. Галоўнымі ўмовамі для гэтага зьяўляюцца адпаведны корм і хлеў. Пройдзе шмат часу, пакуль у Беластоцкай Акрузе будзе асягнуты належны стан жывёлагадоўлі, які ў значнай меры будзе залежаць ад расы быдла. Гадоўля і кармленьне сьвіньняў будзе ў кароткім часе прыведзена да расьцьвету. Выгадаваць сьвіньню, якая мусіць мець 2½ і 3 гады, каб важыць 2½ цэнтнары, гэта зусім памылкова. Гэтая жывёла можа быць здаровай і адпорнай на ўсе хваробы, але з гаспадарчага гледзішча яна зусім недаходная і павінна ўступіць месца лепшым пародам. Сьвіньні, якія прывозяцца ў Беластоцкую Акругу з Нямеччыны, ці то будуць парасяты, ці кормнікі, у вялікай меры азначаць дадзеную лінію гадоўлі сьвіньняў.

Добры селянін у Беластоцкай Акрузе якраз хутка зразумеў, што гэтая ўвезеная жывёла пры адпаведным памяшчэньні і кармленьні ўсе-ж значна лепшая, чым найбольш расавыя сьвіньні, якік дасюль былі ў Беластоцкай Акрузе. Пры





Рыбаловы пры працы на Нёмане

сучасным стане сельскае гаспадаркі было-б найбольш правідлова ўвозіць нямецкаю пароду сьвіньні, якая пасецца на выгане. Пасколькі, аднак, мала задовальвацца ураджаем бульбы ў сярэднім 45 цэнтнараў з ¼ гэктара, настолькі нельга паддавацца абставінам, а ўвозіць з Нямеччыны сьвіньню, якая якраз вырасла з гэтых прымітыўных абставінаў. Перадусім трэба за пару гадоў дабіцца, каб павысіць ураджай бульбы, уводзячы новае насеньне. Гэтым самым створыцца больш шырокая кармавая падстава для гадоўлі добрых сьвіньняў, якія хутка і лёгка адкармліваюцца.

Гадоўля авечак мае ў Беластоцкай Акрузе найбольшае значэньне. У Беластоцкай Акрузе, нажаль, ёсьць адносна вялікія зямельныя абшары, якія і могуць быць выкарыстаныя толькі пад гадоўлю авечак, як гаспадарча — ужыткоўнай жывёлы. Дзякуючы ўвядзеньню прызвычаеных да мясцовых варункаў бараноў (перадусім тут бяруцца пад увагу бараны з чорнымі насамі) удалося-б з часта толькі падобнай да авечкі жывёлы, якая цяпер распаўсюджана ў Акрузе, выгадаваць сапраўдную пароду авечак. Тое самое, што ўжо вышэй гава-

рылася аб сьвіньнях, датычыць аднолькава і справы гадоўлі авечак. Важна перадусім выгадаваць жывёлу з лепшым зужыткаваньнем корму і большай карысьцю. Шмат бараноў, якія пераймаюць у спадчыне гэтыя ўласьцівасьці, ужо прыбыла ў Беластоцкую Акрузу. І ў галіне гадоўлі авечак трэба рабіць усе высілкі, каб дабіцца распаўсюджаньня гаспадарча найбольш карыснае жывёлы.

На пачатку было ўжо адзначана, што глеба й клімат у вялікай меры ўплываюць на стан жывёлагадоўлі тае ці іншае мясцовосьці. Нельга, аднак, памінуць таго, што жыхары гэтае мясцовасьці, калі яны азнаёмлены з справай жывёлагадоўлі, могуць мець найбольшы ўплыў на разьвіцьцё жывёлагадоўлі. Калі-б не ўдалося сярод земляробскага насельніцтва Беластоцкае Акругі прабудзіць зразуменьня гэтае справы, то аб узьдзеяньні чалавека на жывёлагадоўлю ў Беластоцкай Акрузе ня было-б мовы на шмат гадоў. Існуючыя маемасныя суадносіны вымагаюць якраз, каб селянін, які вядзе гаспадарку да 500 моргаў, цікавіўся справай жывёлагадоўлі. Калі толькі прабудзіцца гэтая зацікаўленасьць, жывёлагадоўля ў сілу неабходнасьці здабудзе належнае ёй значэньне.



Стары вход да царквы





Сялянскія сані на службе ў нямецкіх жаўнераў

# Беларускія сяляне, чытайце свой часапіс!

«Многія з вас, беларускія сяляне, выпісваюць «Гаспадара», каторы мае вялікае значэньне для разьвіцьця нашае гаспадаркі. Дзякуючы павучэньням і парадам гэтага часапісу, мы можам паляпшаць нашыя малыя, занядбаныя гаспадаркі. «Гаспадар» павучае, чаго патрабуе наша зямля, як і калі трэба яе абрабляць, каб атрымаць лепшы ўраджай. Ён піша аб розных галінах сельскай гаспадаркі. Хто ўважна чытае і разважае, напэўна зможа атрымаць большы і лепшы ўраджай. Калі мы будзем весьці гаспадарку паводле радаў нямецкіх уладаў і «Гаспадара», атрыманых гаспадарчых прадуктаў ня толькі хопіць для нас, але застанецца яшчэ надвыжка. Дзеля гэтага я прашу Вас, беларускія сяляне, уважайце на кожнае слова гэтага часопісу і паступайце паводле ягоных парадаў, тады ўдасца нам падняць нашую гаспадарку на вышэйшую ступень. Улады, пад панаваньнем каторых мы знаходзіліся дагэтуль, ня рупіліся аб гэткіх парадах, і мы мусілі гаспадарыць паводле старых мэтадаў. Цяпер нам дадзена магчымасьць зрабіць пачын. Вярбуйце больш чытачоў для «Гаспадара», чытайце яго пільна і паступайце паводле ягоных парадаў. **Белік.**

# Беларусы ў СССР

Нэддэрмайэр — Райхсміністэрства на занятыя ўсходнія абшары.

Нязьлічаная колькасьць доказаў з усёй яскравасьцю сьведчыць аб страшэнным і жорсткім нішчэньні бальшавізмам жыцьця народаў. Трэба толькі пуката выявіць аснаўны факт, той факт, што цёмнымі, пякельнымі сіламі раскладу й бязчэсьця нішчылася і агалачвалася усё здаровае, чэснае і жыцьцяздольнае, у якога-б ні было народу і ў якім-бы ні было краі. Бальшавізм нішчыць, пустошыць і, урэшце, заўсёды, дзее толькі бязплодна. Яго дзеяньне заўсёды і ўсюды накіравана толькі на сутнасьць рэчаў і аснову кожнага парадку. Гэта адпавядае істоце бальшавізму. Бальшавізм яшчэ ня быў-бы поўнасьцю гэткім, калі-б ён ня быў зьвязаны з фанатычнай ненавісьцю да Бога, уласнасьці, маралі, адвечных законаў прыроды, калі-б ён ня быў зьвязаны з заўзятай варожасьцю супроць кожнага народу. Бо-ж бальшавізм — гэта збор усяго апрасьцелага, малавартаснага й благога, гэта акрэсьленае палітычна праступленьне сусьветнага масштабу.

Толькі людзі з плыткай і прадажнай думкай, могуць падтрымоўваць гэты парадак або ілжыва абасноўваць яго. Ясна, што бальшавізм не адразу ўсё разьбіваў і нішчыў. Каб асягнуць гэтую мэту, быў распрацованы дакладны плян, які прадбачыў да найменшых падрабязнасьцяў зьнчштажэньне ўсіх падставаў людзкога жыцьця. Далей вядомы факт, што жыды выдумалі большавіцкае вучэньне й праводзілі яго ў жыцьцё. Толькі выкананьне гэтых планаў даручалася падстаўным фігурам гэтае жыдоўска-бальшавіцкае хэўры.

Калі мы глянем на гісторыю бальшавізму й ажыцьцяўленьне яго ў Расеі, мы пабачым тры пэрыяды, якія прывялі да аканчальнага зьнішчэньня народнапаўнавартасных элемэнтаў.

Першы пэрыяд прайшоў пад лёзунгам «пабудовы сацыялізму ў краі». Другі пэрыяд быў пад знакам «перамогі сацыялізму», а трэці пэрыяд быў «пераходам ад сацыялізму да камунізму». Як-бы ні называліся гэтыя пэрыяды, гэта мае другараднае значэньне. Аснаўным фактам зьяўляецца тое, што бальшавізм заўсёды прасьледуе намечаную мэту, а іменна — зьнішчэньне ўсіх асноваў чалавечага жыцьця, кіруючых пластоў, духавенства, сялянства і, урэшце, работніцтва. Мэтады бальшавізму былі заўсёды тыя самыя, а іменна — рэпрэсыі і тэрор.



Поляк, Дзержынскі, арганізатар і першы кіраўнік Ч. К. А. - Г. П. У.

Нічога іншага ня выпала на долю й 10 мільённаму беларускаму народу, які ў 1918 годзе на Ўсебеларускім Кангрэсе абвесьціў сваю «незалежнасьць». Спачатку Масква прабавала разьбіць беларускі народ знутры і гэтым шляхам перацягнуць яго на свой бок.

На беларускім грунце, асабліва ў гарадох, зьявілася шмат платных бальшавіцкіх агентаў.

Што ўва ўсім гэтым жыды адыгрывалі галоўную ролю, гэта дастаткова вядома кожнаму. Але калі бальшавікі ў Крэмлі пабачылі, што прапагандыстычнае правядзеньне пляпаў III Інтэрнацыяналу цягнецца задоўга і ня мае амаль ніякага выніку, тады сталіцу Беларусі, Менск, заняла Чырвоная Армія 11-га чэрвеня 1920 г. ў вайне супроць Польшы.

Бальшавікі выступілі з усёй безаглядпасьцю супроць беларусаў. Сябры ўраду часткова былі зьверскі забітыя,



Мільёны чырвонаармістаў ідзе ў нямецкі палон

часткова сасланыя. Як адказ на крывавыя паўстаньні сялянства, Масква дала ілюзыю самастойнае дзяржавы (БССР).

Але мэта — каб атуманіць народ, ня была асягнута. Заўзятая барацьба паміж беларусамі і бальшавіцкімі насільнікамі ішла далей. Тады Масква павяла супроць усяго беларускага сыстэматычны наступ. Яна вынішчыла амаль да рэшты ўсю беларускую інтэлігэнцыю. Тысячы беларускіх студэнтаў, настаўнікаў, сялян і работнікаў памёрла на прымусовых работах, капаючы каналы на Поўначы і ў Сыбіры. Пад лёзунгам «барацьбы з контррэвалюцыяй» праводзілася далей зьніштажэньне Беларусі аж да хвіліны, калі край быў вызвалены нямецкім войскам. З асаблівай жорсткасьцю накіроўвалася гэтая палітыка зьніштажэньня супроць сялянаў у сувязі з калетывізацыяй сельскае гаспадаркі.

Пад відам нібы-та неабходнасьці ваеннага забясьпечаньня граніцы ўздоўж польскага гаспадарства, ачышча ўся беларускі народны абшар. Дзесяткі тысяч беларускіх сялян былі перасялены або высланы, каб магла існаваць савецкая ўлада. Тая-ж самая доля спаткала і іншыя краіны, занятыя бальшавікамі, як — Эстонію, Латвію і Літву. Калі частка беларускае тэрыторыі (Зах. Беларусь), адыйшоўшай пасьля падзелу Польшчы да СССР, не адчула яшчэ цалком зьніштажаючай сілы бальшавізму, дык гэта было таму, што бальшавікі панавалі тут нядоўга. Нямецкая армія гэтую частку беларускага народу абараніла ад зьніштажэньня, якое спаткала беларусаў па той бок колішняй граніцы.



# Вялікі Сын Нямецкага Народу

Напісаў Феодар Ілляшэвіч, кіраўнік Беларускага Камітэта ў Беластоку.

20-га красавіка ўся Нямеччына, уся аб'еднаная ў барацьбе за лепшую будучыню Эўропа сьвяткуе дзень нараджэньня Вялікага Сына Нямецкага Народу — Адольфа Гітлера. Імя Адольфа Гітлера — гэта сымбаль барацьбы, якую вёў на жыцьцё і сьмерць нямецкі народ пасьля першай сусьветнай вайны. Аслабленая й паніжаная Нямеччына знайшла ў яго асобе правадыра, здольнага зьяднаць усе здаровыя народныя сілы й разьвязаць усе найбольшыя труднасьці. Сын працоўнага народу, сам пэўны час работнік, Адольф Гітлер біўся на фронце ў часе першай сусьветнай вайны, як звычайны жаўнер. Ранены, затручаны газамі, перанёсшы ўвесь цяжар вайны разам з сваімі нямецкімі сябрамі, Адольф Гітлер вярнуўся з фронту з адзнакай Жалезнага Крыжа. Як верны сын свайго народу, ён пабачыў усю нядолю, у якой апынулася яго бацькаўшчына. Пасьля ваенная Нямеччына знаходзілася ў стане ўпадку. Накінутыя Антантай варункі міру азначалі, коротка кажучы, зьдзек і паніжэньне. Унутраны разлад, распаношаньне жыдоў, палітычная грызьня бязьлікіх партыяў дапаўнялі малюнак. Усё гэта бачыў і адчуваў Адольф Гітлер. І ён пастанавіў падняць свой народ з паніжэньня да славы. Але каб гэта зрабіць, трэба было палажыць канец унутранай слабасьці і несправядлівасьці. І Адольф Гітлер высока падымае сьцяг барацьбы за сільны, аб'еднаны адной воляй Вяліка-Нямецкі Райх. Ён кладзе пад-



Нямецкія бомбы перашкадзілі дзеяням гэтага савецкага панцыра



Казацкі ахотнічы аддзел, пад нямецкім кіраўніцтвам, вядзе барацьбу супроць саветаў

валіны пад нацыянал-сацыялістычны рух, які цяпер ахапіў увесь нямецкі народ. Паняцьці сацыялізму і нацыяналізму, якія ў атмасфэры палітычнай грызьні й прапаганды інтэрнацыянальных жыдоў, здавалася, нельга было пагадзіць, Адольф Гітлер увязаў у запачаткованым ім руху. Сацыяліст у adносінах да свайго народу і нацыяналіст у адносінах да ўсяго іншага сьвету, Адольф Гітлер прайшоў баявы шлях і зьдзейсьніў тое, што здавалася іншым немагчымым, а нават сьмешным. Рады яго староньнікаў павялічваліся, справа яго расла і расла, і ў 1933 г. мы бачым яго на чале новай нацыянал-сацыялістычнай Нямеччыны. Ад здабыцьця ўлады Адольф Гітлер збудаваў Вялікі Нямецкі Райх, узбудзіў драмаўшыя ў народзе сілы і зрабіў іх здольнымі, каб парваць накінутыя ланцугі Вэрсальскага міру.

Чацьверты год праводзіць Правадыр Намеччыны свой дзень нараджэньня ў ваеннай абстаноўцы. Ён знаходзіцца разам з створанай ім неперамoжнай Нямецкай Збройнай Сілай, здавальняючыся тымі-ж варункамі жыцьця, як і кожны іншы жаўнер. Кожны дзень, кожная гадзіна, кожны ўдар сэрца Адольфа Гітлера — гэта самаадданасьць для вялікай справы свайго народу. Вайна, якую вядзе цяпер нямецкі народ, гэта ня толькі вайна за сьветлае заўтра Нямеччыны, гэта вайна супроць адвечных ворагаў народнага шчасьця й ладу. Народы Эўропы зразумелі гэта і поплеч з нямецкім народам выступілі ў апошні бой. Плютакраты і капіталісты ў Англіі і Амэрыцы, а бальшавікі ў Савецкім Саюзе аказаліся цяпер найлепшымі прыяцелямі, бо і там і тут адны і тыя-ж ворагі народу — жыдоўскія эксплёататары. Савецкага салдата гоняць гэтыя жыдоўскія ўладары на сьмерць за інтарэсы жыдоўскіх плютакратаў і капіталістаў. Гэта паўнейшае банкроцтва „сацыялізму“, створанага і рэалізаванага жыдамі. Усе народы ўжо добра пазналі гэтых сваіх „апякуноў“ і таму ў барацьбе Нямеччыны бачаць нараджэньне новага справядлівага парадку. Беларускі народ, жыўцом парэзаны на кавалкі пасьля Вэрсальскага міру, аддадзены тымі-ж „міратворцамі“ на зьдзек Польшчы і Савецкага Саюзу, даволі нацярпеўся, даволі напіўся сьлёз. Таму ўсёй душою ён стаіць за новы парадак у Эўропе. У новай Эўропе, Эўропе Адольфа Гітлера, ён спадзяецца таксама зажыць шчасьлівым і свабодным жыцьцём, як і іншыя народы. Таму беларусы ўсімі сіламі хочуць памагчы ў вялікай справе зьнішчэньня ворагаў Нямеччыны, якія зьяўляюцца аднолькава і заклятымі ворагамі беларускага народу. Сярод галасоў прабудзіўшайся, як вясна, Эўропы знойдзецца і беларускі голас. Вайна ідзе. Вайна за мір, за спакойнае і справядлівае жыцьцё на нашай зямлі. Хто выклікаў гэтую вайну — ясна кожнаму, гэта тыя паны, што дбаюць аб свае тоўстыя кішэні, гэта тыя „сацыялісты“ і „апякуны народу“, што цяпер гоняць сваіх падданых на крывавую бойню за інтарэсы капіталістаў. Ясна, што яны ніколі не пераможуць, бо іх інтарэсы скіраваны супроць народу. Перамога на старане нацыянал-сацыялістычнай Нямеччыны. Так як Адольф Гітлер прывёў Нямеччыну з унутранага ўпадку да магутнасьці й аб'яднаньня, так ён прывядзе да перамогі новага парадку ўва ўсёй Эўропе.



Звозка збожжа

## Беларуская народная казка

Гэта было калісь, калі існаваў Савецкі Саюз і існавалі яго граніцы.

На савецкай граніцы зыйшліся карова, сабака й асёл. Пачалі яны наракаць на сваё жыцьцё й пастанавілі перайсьці ў Савецкі Саюз. Першы пайшоў сабака. Чакаюць яго карова й асёл, чакаюць. Тыдзень прайшоў, другі — няма сабакі. Аж, урэшце, прыбягае. Худы, язык высунуў, ледзь дыхае.

— Ну, што? — пытаюцца карова й асёл — Чаму вярнуўся. Ці есьці няма чаго?

— Не, трохі ёсьць. Але вось, брахаць ня можна, бо ўсё жыды брэшуць. Таму й вярнуўся.

Мне брахаць ня трэба, падумала карова й пайшла праз граніцу.

Чакаюць асёл і сабака. Тыдзень прайшоў, другі — няма каровы. Аж, урэшце, прыплялася. Худая, галаву зьвесіла, ледзь дыхае.

— Ну, што? — пытаюцца сабака й асёл. — Чаму вярнулася? Ці есьці няма чаго?

— Не, трохі ёсьць. Але вось усё нормамі мучаюць. Чыста ўсе дойкі адцягалі. Таму й вярнулася.

Мяне ня дояць, падумаў асёл, і пайшоў праз граніцу ў Савецкі Саюз.

Чакаюць сабака й карова асла. Тыдзень няма, другі, трэці...

Аж атрымліваюць яны газэту, а ў ёй вялікімі літарамі надрукована, што асёл выбраны дэпутатам у Вярхоўны Савет



Вёска Мсьціваў у Ваўкавыскім павеце



## Музыка і чэрці

Быў адзін музыка. З маленства ён нічога не рабіў, толькі іграў. Яшчэ хлапчуком: пасе валоў або коней, зробіць з лазы дудачку ды як зайграе, дык валы пакінуць пасьціся, разьвесяць вушы ды й слухаюць; а ў лесе птушкі прыціхнуць, нават жабы ня крумкаюць.

А як павядзе коней на начлег — лета, ночы цёплыя, аж парыць; папрыводзяць на дуброву коней хлопцы й дзеўкі з усяго сяла, сваволяць, сьмяюцца, паюць песьні — ведама, маладосьць, заўжды весела; а Музыка як зайграе на сваёй дудачцы, дык адразу ўсе прыціхнуць. Вось ім здаецца, што якаясь саладзіня ўлілася ім у сэрца, а якаясь сіла ўхваціла на плечы й нясе ўсё ў гору і ў гору, к ясным зоркам, у чыстае неба, у чыстае, сіняе, шырокае неба. Сядзяць яны, нічога ня думаюць, забыліся, што рукі й ногі млеюць ад цяжкае работы, што ў жываце бурчыць ад голаду. Сядзяць і ўсё слухаюць. І хацелася-б ім сядзець гэтак усё жыцьцё і ўсё слухаць, як грае Музыка. Вось ён замаўчыць. Але ніхто ня сьмее паварухнуцца, каб ня спужаць таго голасу, што пошчакам рассыпаўся па дуброве, па лесе й паднімаецца ў самае неба.

Але вось зайграе Музыка жаласьліва й заплачуць і лес і дуброва, набяжыць хмарка — і з неба сьлёзкі так і пальлюцца. Ідуць позна да гасподы мужыкі й бабы, учуюць тую музыку, стануць, слухаюць, плачуць. Вось так усё іх горкае жыцейка перад вачыма і стаіць, і такі іх апануе жаль, што



'ялянская хата без сьвета і паветра

й мужыкі, старыя, барадатыя мужыкі, плачуць, як бабы над нябожчыкам, або як праводзяць сынкоў у салдаты.

Але вось па немалым часе Музыка ад жаласьлівага ды на вясёлае зьверне. Пакідаюць мужыкі ды бабы косы, граблі, вілы, гаршкі й біклягі, возьмуцца ў бокі і давай скакаць. Скачуць малыя дзеці, скачуць кусты й лес, скачуць зоркі, скачуць хмаркі — усё скача і сьмяецца.

Вось такі то быў Музыка чарадзейнік: што захоча, то ён з сэрцам зробіць.

Падрос Музыка, зрабіў сабе скрыпачку й пайшоў у сьвет. Куды прыйдзе — пайграе, а за тое яго накормяць, напояць, як самага лепшага госьця й яшчэ дадуць на дарогу. Доўга хадзіў так на сьвеце Музыка, весяліў добрых людзей, а ліхім без нажа рэзаў па сэрцы. Бачаць чэрці, што куды Музыка прыйдзе, там менш людзі грэшаць — і давай вайстрыць на яго зубы.

Ідзе раз Музыка цераз лес, а чэрці й наслалі на яго дванаццаць галодных ваўкоў. Заступілі яны Музыцэ ў лесе дарогу, стаяць ды зубамі ляскаюць, а вочы гараць, як гарачае вугольле. Няма ў Музыкі нічога ў руках, толькі над пахаю ў мяшэчку скрыпка. Што тут рабіць? — думае Музыка — што тут пачаць? Прыйшоў яму канец! Дастаў ён з мяшэчка скрыпку й смык, каб хаця яшчэ раз напасьледак пайграць, прысланіўся к дзераву ды й пацягнуў смыкам па струнах. Як жывая, загаварыла скрыпка, раздаўся пошчак па лесе. Прытаіўся лес — і лістком не варухне; а ваўкі, як стаялі, разьзявіўшы горла, так і акамянелі: стаяць ды слухаюць, а сьлёзы так і цякуць з воўчых ачоў. Перастаў Музыка йграць, а ваўкі, бы сонныя, пасунулі ў лес.

Пайшоў Музыка далей. Ідзе ён ды йдзе, падходзіць к рацэ. Сонейка ўжо закацілася за лес, толькі яшчэ сьвеціць на самыя вярхі й як-бы аблівае іх пазалотаю. Ціха, як у вусе, ніводзін лісток і не варухнецца. Вельмі харошы вечар. Сеў Музыка на камень на крутым беразе каля ракі, дастаў сваю скрыпачку й зайграў, ды так гожа, што яго заслухаліся й неба, і зямля, і вада й давай усё скакаць. Зоркі мітусяцца, як зімою сьнег; хмаркі плаваюць па небе, як ластаўкі перад дажджом, а рыба так узгулялася, што рака кіпіць, як вада ў гаршку. Але вось падняўся ў рацэ вадзяны цар ды як пачаў скакаць, дык вада так заляскала, што заліла берагі, а чэрці спужаліся й павыскаквалі з вады. Бачаць яны, што ад Музыкі нідзе супакою няма, вось яны давай думаць, як-бы яго загубіць



Бачыць Музыка, што вадзяны цар нарабіў людзям бяды, перастаў граць, палажыў скрыпачку ў мяшок і хацеў ісьці далей, але вось падходзяць два панічы й просяць пайграць на ігрышчы, абяцаюць заплаціць, што схоча. Падумаў Музыка, што яму недзе начаваць, ды й грошай няма, паслухаў панічоў і пашоў з імі йграць вечарынку. Прывялі панічы Музыку ў палацы. Бачыць ён, аж там паноў і паненак, хоць гаць гаці. Пакуль ён зьбіраўся йграць, бачыць, што гэта ўсе панічы падбягуць к сталу, абмочаць палец у місу й мажуць сабе вочы. Памазаў і ён, ды як памазаў, дык і бачыць, што гэта не паны, а чэрці й ведзьмы й што ён не ў палацах, а ў пекле. Вось і зайграў ён ды так, што ўсё пекла разьляцелася ў шчэпкі, а чэрці разьбегліся.



І гэтыя савецкія панцыры былі зьнішчаны нямецкімі жаўнерамі

Вось з тае пары чэрці й баяцца Музыкі й больш яго не чапаюць.

## Першая дапамога хворай жывёле

Ад хваробаў жывёлы нясуць вялізарныя страты як асобныя гаспадары, так і цэлы наш край.

Мы прызвычаены хадзіць каля жывёлы, але вельмі часта ня ведаем, як асьцерагчы яе ад хваробы, або што рабіць, калі жывёля захварэе, а ня маючы рады, мы кідаемся на ўсе бокі і слухаем усякіх забабонаў розных знахараў, баб—шаптух, розных самавучак — канавалаў, якія яшчэ і цяпер туманяць лёгкаверныя нашы галовы і сваімі парадамі прыносяць людзям больш шкоды, чым карысьці.

Праўда, наша становішча вельмі цяжкое, бо ў нас вельмі мала ня толькі вэтэрынараў, але няма і добрых фэльчароў якія адны маглі-б даць праўдзівую раду, што і як рабіць з захварэўшай жывёлай. Дзеля гэтага неабходна нам мець

некаторыя веды аб хваробах больш сустракаючыхся сярод жывёлы і аб першай дапамозе ёй, што часта можа паслужыць прычынай і поўнага выздараўленьня без спэцыяліста - вэтырынара, да якіх нам часта зьвяртацца немагчыма і па той прычыне, што яны занадта «шануюць сваю працу». Каб хоць трохі дапамагчы ў гэтай справе, мы тут спынімся на больш распаўсюджаных хваробах, да якіх залічваюцца розныя віды кульганьняў.

К у л ь г а н ь н е. Кожная жывёла можа закульгаць пры зьвіхах, зломах, расьцяжэньнях жылаў і суставаў, або проста пры зашыбах і ад розных іншых прычын.

Дазнацца з якой прычыны закульгала жывёла бывае даволі трудна, як трудна бывае найсьці балючае майсца дзе-небудзь у назе, ад якога жывёла кульгае. Вось чаму кожны раз лепш зьвярнуцца да вэтэрынара за парадай. Але часамі бывае патрэбна і самому гаспадару ўжываць тыя ці іншыя спасабы дапамогі каню, або іншай жывёле, калі яны закульгаюць.

Перадусім, трэба даведацца, на якую ногу жывела прыпадае, а потым ужо шукаць прычыну хваробы і тое хворае месца, адкуль ідзе кульгавасьць.

Часамі не адразу і разбярэш, на якую ногу жывела кульгае. У такіх выпадках трэба глядзець не так на ногі, як на галаву, бо конь хворы, напрыклад, на п я р э д н ю ю нагу, паднімае кожны раз галаву тады, калі ступае на х в о р у ю нагу, а кульгаючы на якую-небудзь з а д н ю ю будзе спускаць галаву ў н і з, ступаючы на хворую нагу. Дзеля гэтага спачатку трэба папрабаваць кульгавага каня, правёўшы яго ступою, а потым крыху пагнаць і трушком, спачатку па мяккому, а потым і па цьвёрдаму, грунту.

Калі конь моцна падымае і быццам выкідвае нагу наперад — гэта сьведчыць, што боль дзесьці ўверсе нагі, а калі конь асьцярожна прыступае і зьлегку ставіць нагу на грунт і баіцца на яе абаперціся, дык можна думаць, што хвароба крыецца ўнізе нагі. Аднак, ня досыць яшчэ абглядзець хворую нагу: яшчэ трэба яе ашчупаць рукамі, каб даведацца, ці ня мае яна дзе вопуху, ці не гарачэйшая яна ў якім - колечы месцы, ці скарадзіцца жывёла, калі прыцiснуць ёй у якім месцы. А каб разпазнаць хваробу ў капыце, трэба яшчэ папрабаць капыт і абцугамі. Звычайна агляд хворае нагі пачынаецца з капыта і, раўнуючы хворую да здаровае нагі, шукаецца на ей захвраўшае месца. Вельмі часта закульгае наш конь пасьля вясельля ці якога іншага падобнага вясёлага здарэньня, калі мы часта хочам «віхрам» праехацца на нашых





Таксама і гэты савецкі танк быў зьнішчаны нямецкімі жаўнерамі

«знамянітых» дарогах. Пасьля гэтага зрабіць так: прывясьці каня на цьвёрды ток, падняць яму высоко галаву левай рукой, а ў правую схаваць з-заду пугу, а пасьля зьнячэўку сьцябануць пугай каня па галаве. Конь моцна абапрэцца на ўсе ногі і можа адразу перастаць кульгаць. Пасьля гэтага трэба яго памалу правясьці і ня браць адразу да цяжкай працы. Даволі часта прычынаю кульганьня бывае сплечаньне каня на пярэдняй назе і клубавое кульганьне — на задняй назе.

С п л е ч а н ь н е: — бывае ад розных прычын: то ад збою- то ад расьцяжэньня плечавога суставу, ці ад застуды, ці ад пою, ці іншых. Калі конь сплеччыцца, дык ён пачынае кульгаць так, што шагі хворае нагі робяцца карацейшымі, нага падымаецца над зямлёю, так што праз якую-небудзь перашкоду конь заўсёды кульгае менш, чым ідучы на гару, ён прысядае, калі яго крута павярнуць па хворую нагу.

Стоячы-ж на месцы, такі конь выстаўляе хворую нагу наперад. Досьць часта ў хворым плячы ніякіх зьмен можна і не знайсьці. Але часта, калі конь закульгаў толькі нядоўга, прымячаюць вопух і гарачыню ў плячы, а калі хвароба задаўнена, дык плячо пачынае ўжо ўсяхаць.

К л у б а в о е к у л ь г а н ь н е: здараецца ад тых самых прычын, што і сплечаньне, толькі яно бывае на заднай назе

ў клубавым суставе. Распазнаць яго можна па тым, што пры ходзе конь мала выкідае наперад хворую нагу, робіць ёю карацейшы шаг, а часам і загрэбвае ёю. Хворая нага не падымаецца высока над грунтам, а кбуб ападае трохі ўніз, праз што ў гэты бок скрыўляецца крыж. Асабліва конь моцна кульгае, калі яго крута павярнуць убок хворае нагі. Стоячы на месцы, такі конь адстаўляе хворую нагу назад і ўбок. Лечаць сплечаньне і клубавое кульганьне не аднолькава. Спачатку ўжываюць ахалоджваньне (гліну), а дзёнь праз 3—5, калі гарачыныя паменшае, робяць расьціраньне з шэрай мазі (можна купіць у аптэцы) або ставяць на хворы сустаў гарчычнік. Хворую жывёлу трымаюць у хляве бяз працы, нікуды яе не паганяюць, нават носяць ёй ваду ў хлеў і потым, калі яна перастане кульгаць, пачынаюць браць яе на самую лёгкую працу, але спачатку на кароткі час. Пры задаўненай хваробе робяць уколы з розных лякарстваў.

А х в а т (апойка). Ахватам завуць тыя хваробы ў жывёлы, што звычайна ў людзей завуцца рэўматызмам, ламатою. Найчасьцей ахват бывае ў каня і залежыць ад двух галоўных прычын: ад застуды, або ад неадпаведнага кармленьня.

Распазнаецца хвароба па тым, што конь раптам робіцца смутны, перастае есьці, заплюшчвае вочы і цяжка дыхае. Калі спрабаваць крануць ахвачанага каня з месца, дык ён упіраецца і ня хоча ісьці, а потым пачынае паволі пераступаць хворымі нагамі і хадзіць, як спутаны. Ногі (асабліва капыты) робяцца гарачыя і скура набракае на іх, стаяць такія коні, сагнуўшы сьпіну і падабраўшы пад сябе ногі, як-бы на іх узвалілі ўвесь цяжар; пярэднія-ж ногі далёка выстаўляюцца наперад. А калі хвароба захопіць усе чатыры нагі, дык і пярэднія ногі падводзяцца пад жывот. Чым раней пачаць ратаваць хворую жывёлу, тым больш надзеі, што яна хутка ачуняе. Часта ахват зацягваецца і калечыць каня назаўсёды.

Захварэўшага каня трэба адразу раскаваць і паставіць на густа замешаную гліну, а ўлетку ставяць на бабку ў рэчку, каб адхваціць каньцы ног. У сярэдзіну даюць гляўбэрскае солі каля 1 фунта ўдзень на два разы. Ногі расьціраюць лятучай мазьзю або шкіпідарам з алівай папалам. Падчас лячэньня каню трэба даваць лёгкі і напалову паменшаны корм. Трэба мець на ўвазе, што ахват мае нахіл-вельмі лёгка паўтарацца і часамі дрэнна ўплывае на сэрца.

У л о г а: адзначаецца тым, што спачатку конь пачынае патроху прыпадаць на заднюю нагу, але толькі спачатку





Пастрэляны савецкі танк з 15 см. гарматай

хады, далей-жа разыходзіцца і перастане кульгаць. Цераз тыдзень — два кульгавасьць павялічваецца і адзначаецца невялікі, але цьвёрды вопух на ўнутранай паверхні скакальнага сустава.

Каб упэўніцца, ці сапраўды ў каня улога, робяць так званую спробу на ўлогу: падкручваюць нагу, падняўшы яе высока і трымаюць яе так хвілін пяць, а потым, раптам пускаюць нагу з рукі і прымушаюць каня з месца бяжаць. Калі ў каня будзе сапраўды ўлога, дык пасьля такое спробы ён востра закульгае з месца.

Лечаць улогу, як і іншыя накосьнікі, перевяжна разаграванымі расьціраньнямі, але гэта вельмі рэдка памагае. Часьцей улогавы конь перастае цераз некаторы час кульгаць сам сабой і толькі пачынае няправільна хадзіць, высока падымаючы нагу.

Здараецца, што ўлога можа перадавацца жарабяці — у спадчыну, дзякуючы таму ў маладога каня можа зьявіцца ўлога, з першых-жа гадоў працы. Вось чаму гэткіх каней ня варта пакідаць на развод.

# Жыве Беларусь!

Радасьць звоніць жаўранкам пад хмарамі,
Хоць ня згледжу яе, не зьбяру...
Дні настала звонкія, змагарныя:
Зноў жыве і расьце Беларусь!
Зноў жыве з намі, з думкамі нашымі,
З дзіўнай кволай музыкай слоў...
Кпілі з іх нашы ворагі... страшылі...
Толькі кпіны іх ветрам зьмяло!
Наша мова цудоўная, сьпеўная,
Умее сьпеўным калосьсем шумець,
Галасіць навальніцай улеўнаю,
Верасьневаю медзьдзю зьвінець.
Мова наша — выкута з золата —
Не ржавее, бліпічыць, зіхаціць.
Гета мова паэтаў і волатаў,
Скарб, які нас трымаў пры жыцьці!
Каб ня мова, даўноб мы растаялі,
Расплыліся імглой між чужых,
Зьбеглі ў вырай гусінаю стаяю,
Але з мовай — і мы будзем жыць!
Будзем жыць! Днямі яснымі, новымі,
Пойдзем, пойдзем з табой угару,
Наша жытняя і васільковая
Несьмяротная Беларусь!

Натальля Арсеньнева.



ялянская хата



## ...ендар цяжарнасьці свойскае жывёлы

### ЧАС ЦЯЖАРНАСЬЦІ

**Коні** 48,5 тыдняў (340 дзён). Найкаротшы час 330 дзён, найдаўжэйшы 419. **Каровы** 40,5 тыдняў (284 дні). Найкаротшы час 240 дні, найдаўжэйшы — 321 дзён. **Авечкі і козы** каля 22 тыдняў (152 дні). Найкаротшы час 146, найдаўжэйшы — 158 дзён. **Сьвіньні** 17 тыдняў (120 дзён). Найкаротшы час 109, найдаўжэйшы — 133 дні.

**Ачышчэньне пасьля радоў.** У кабыл ад некалькі мінут да ½ гадзіны пасьля радоў. Каровы 3 да 8 гадзін пасьля адбыўшыхся радоў, але часта і на 13 дні без якое небудзь шкоды для жывёлы. Сьвіньні часткова непасрэдна пасьля радоў. Авечкі і козы 2 да 6 гадзін пасьля радоў.

**Час выседжваньня.** У кураў 19 да 24 дзён; у індыкоў 26 да 29 дзён; у гусей 28 да 33 дзён; у качак 28 да 32 дзён; у галубоў 17 да 19 дзён.

**Час кармленьня.** Жарабяты ссуць 2 да 3 месяцаў. Цяляты 1 да 2 месяцаў. Ягняты 2 да 4 месяцаў. Парасяты 4 да 8 месяцаў.

**Час цечкі.** У кабыл 8 дзён, паўтарэньне пры незапладненьні праз 2 да 4 тыдняў. Паяўляецца пасьля радоў на 7—9 дні. У кароў 1 да 2 дзён, паўтарэньне пасьля радоў на 19—21 дні. Авечкі 2 да 3 дзён, паўтарэньне на 3 тыднях, паяўляецца пасьля радоў на 6 да 8 тыдняў. Сьвіньні 2 да 4 дзён, паўтарэньне праз 3 тыдні, паяўляецца пасьля радоў на 8 тыдні.

| Калі цяжарн. пачалася | Канец цяжарнасьці | | | |
|---|---|---|---|---|
| Дата | у кабыл 340 дзён | у кароў 284 дзён | у авечак і козаў 152 дні | у сьвіньняў 116 дзён |
| 1 студз. | 6 сьнежня | 11 кастр. | 1 чэрвеня | 26 красав. |
| 6 " | 11 " | 16 " | 6 " | 1 траўня |
| 11 " | 16 " | 21 " | 11 " | 6 " |
| 16 " | 21 " | 26 " | 16 " | 11 " |
| 21 " | 26 " | 31 " | 21 " | 16 " |
| 26 " | 31 " | 5 лістап. | 26 " | 21 " |
| 31 " | 5 студз. | 10 " | 1 ліпня | 26 " |
| 5 лютага | 10 " | 15 " | 6 " | 31 " |
| 10 " | 15 " | 20 " | 11 " | 5 чэрвеня |
| 15 " | 20 " | 25 " | 16 " | 10 " |
| 20 " | 25 " | 30 " | 21 " | 15 " |
| 25 " | 30 " | 5 сьнежня | 26 " | 20 " |
| 2 сакав. | 4 лютага | 10 " | 31 " | 25 " |
| 7 " | 9 " | 15 " | 5 жніўня | 30 " |
| 12 " | 14 " | 20 " | 10 " | 5 ліпня |
| 17 " | 19 " | 25 " | 15 " | 10 " |
| 22 " | 24 " | 30 " | 20 " | 15 " |
| 27 " | 1 сакав. | 4 студз. | 25 " | 20 " |
| 1 красав. | 6 " | 9 " | 30 " | 25 " |
| 6 " | 11 " | 14 " | 4 верасьня | 30 " |
| 11 " | 16 " | 19 " | 9 " | 4 жніўня |
| 16 " | 21 " | 24 " | 14 " | 9 " |
| 21 " | 26 " | 29 " | 19 " | 14 " |
| 26 " | 31 " | 3 лютага | 24 " | 19 " |
| 1 траўня | 5 красав. | 8 " | 29 " | 24 " |
| 6 " | 10 " | 13 " | 4 кастр. | 29 " |
| 11 " | 15 " | 18 " | 9 " | 3 верасьня |
| 16 " | 20 " | 23 " | 14 " | 8 " |
| 21 " | 25 " | 28 " | 19 " | 13 " |
| 26 " | 30 " | 5 сакав. | 24 " | 18 " |
| 31 " | 5 траўня | 10 " | 29 " | 23 " |
| 5 чэрвеня | 10 " | 15 " | 3 лістап. | 28 " |
| 10 " | 15 " | 20 " | 3 сьнежня | 3 кастр. |
| 15 " | 20 " | 25 " | 8 " | 8 " |
| 20 " | 25 " | 30 " | 13 " | 13 " |
| 25 " | 30 " | 4 красав. | 18 " | 18 " |
| 30 " | 4 чэрвеня | 9 " | 23 " | 23 " |
| 5 ліпня | 9 " | 14 " | 21 " | 28 " |
| 10 " | 14 " | 19 " | 8 " | 2 лістап. |
| 15 " | 19 " | 24 " | 13 " | 7 " |
| 20 " | 24 " | 29 " | 18 " | 12 " |
| 25 " | 29 " | 4 траўня | 23 " | 17 " |
| 30 " | 4 ліпня | 9 " | 28 " | 22 " |
| 4 жніўня | 9 " | 14 " | 2 студз. | 27 " |
| 9 " | 14 " | 19 " | 7 " | 2 сьнежня |
| 14 " | 19 " | 24 " | 12 " | 7 " |
| 19 " | 24 " | 29 " | 17 " | 12 " |
| 24 " | 29 " | 3 чэрвеня | 22 " | 17 " |
| 29 " | 3 жніўня | 8 " | 27 " | 22 " |
| 3 верасьня | 8 " | 13 " | 1 лютага | 27 " |
| 8 " | 13 " | 18 " | 6 " | 1 " |
| 13 " | 18 " | 23 " | 11 " | 6 " |
| 18 " | 23 " | 28 " | 16 " | 11 " |
| 23 " | 28 " | 3 ліпня | 21 " | 16 " |
| 28 " | 2 верасьня | 8 " | 26 " | 21 " |
| 3 кастр. | 7 " | 13 " | 3 сакав. | 26 " |
| 8 " | 12 " | 18 " | 8 " | 31 " |
| 13 " | 17 " | 23 " | 13 " | 5 лютага |
| 18 " | 22 " | 28 " | 18 " | 10 " |
| 23 " | 27 " | 2 жніўня | 23 " | 15 " |
| 28 " | 2 кастр. | 7 " | 28 " | 20 " |
| 2 лістап. | 7 " | 12 " | 2 красав. | 25 " |
| 7 " | 12 " | 17 " | 7 " | 2 сакав. |
| 12 " | 17 " | 22 " | 12 " | 7 " |
| 17 " | 21 " | 27 " | 17 " | 12 " |
| 22 " | 27 " | 1 верасьня | 22 " | 17 " |
| 27 " | 1 лістап. | 6 " | 27 " | 22 " |
| 2 сьнежня | 6 " | 11 " | 2 траўня | 27 " |
| 7 " | 11 " | 16 " | 7 " | 1 " |
| 12 " | 16 " | 21 " | 12 " | 6 " |
| 17 " | 21 " | 26 " | 17 " | 11 " |
| 22 " | 26 " | 1 кастр | 22 " | 19 " |
| 27 " | 1 сьнежня | 6 " | 27 " | 21 " |
| 31 " | 5 " | 10 " | 31 " | 23 " |

# СЯЛЯНЕ і РАБОТНІКІ!

Вялікая небясьпека, як пажары, крадзеж, пагражае Вашым грошам, шам, калі Вы іх перахоўваеце ў хаце. Вы самі можаце захаваць сябе ад стратаў.

## Складайце Вашыя грошы у Касах Ашчаднасьці! Там яны зябясьпечаны!

Гэтыя грошы астаюцца Вашай уласнасьцю й на кожнае жаданьне будуць Вам выплачаны ў давольным разьмеры. Апрача таго, кожная марка прыносіць Вам працэнты, якімі Вы таксама можаце распараджацца.

**Таму паслухайце нашай добрай рады!**

**Не пакідайце Вашых грошаў у хаце!**

**Гэтыя грошы павінны перахоўвацца ў Касе Ашчаднасьці!**

## УКЛАДЫ ПРЫЙМАЮЦЬ:

| | |
|---|---|
| Павятовая Каса Ашчаднасьці ў **Беластоку** | з пададдзелымі ў Чорнай Весі, Гарадку, Кнышыне, Лапах, Старасельцах, Супрасьлі й Васількове. |
| Гарадзкая Каса Ашчаднасьці ў **Беластоку** | вул. Александра 1. |
| Павятовая Каса Ашчаднасьці ў **Бельску** | з пададдзеламі ў Пружане й Высока-Літоўску. |
| Павятовая Каса Ашчаднасьці ў **Граеве** | з пададдзелам ў Аўгустове. |
| Павятовая й Гарадзкая Каса Ашчаднасьці ў **Горадні** | з пададдзеламі ў Друзгеніках, Азёрах, Камянцы, Ліпску, Лунай, Марцінканцах, Новым Двары, Астрыне, Парэччы, Скідлі, Сабакінцах і Сапоцькіне. |
| Павятовая Каса Ашчаднасьці ў **Ломжы** | з пададдзеламі ў Чыжаве, Ясеніцы, Едвабнеш, Кольне, Мяскове, Рутках, Сьнядове, Ставісках, Шэпетове, Высока Мазавецку й Замброве. |
| Павятовая Каса Ашчаднасьці ў **Саколцы.** | |
| Павятовая Каса Ашчаднасьці ў **Ваўкавыску.** | |



# Боль зубоў зьяўляецца асьцярагаучым сыгналам!

Усе мы баімся зубной болі, бо яна часта прычыняе нязносныя мукі, перашкаджае ў рабоце, аслабляе творчую сілу чалавеска, а нават адбірае адвагу да жыцьца. Аднак мы рэдка ведаем аб глыбейшым значэньні зубное болі. Калі уміраае зубны шпік, то боль зубоў уцішаецца, а мы няраз думаем, што ўжо ўсе ў найлепшым парадку. У сапраўднасьці тады-ж толькі і пачыняецца небяспека: зубны шпік пачынае гніць і можа атручваць усе цела. Часта рэўматызм, хваробы сэрца і нэрак пачынаюцца нязноснаю зубною болью, аднак калі гэтая боль міне, мы не зварочваем больш увагі і думаем, што ужо усе ўпарадку.



Ропа ў пашчэнцы адкуль яна пранікае да сэрца, нэрак і суставаў.

Боль зубоў зьяўляецца асьцярагаўчым сыгналам! Яна паказвае нам, што зубы ня ўпарадку і што мы мусім іх лячыць! Не памогуць тут цяплыня ці холад, алькаголь ці гвозьдзіка, парашкі, кампрэсы ці гарбата, толькі адпаведнае і рачовае лячэньне зубоў. Найляпей аднак — гэта пастарацца унікнуць зусім зубной болі.



Зуб і пашчэнка становяць цэласьць Зуб жыве.

А гэта вельмі легка мы мусім разумна жыць, есьці многа варыва, салаты і чорнага хлеба; страву трэба добра перажовываць, а перадусім чысьціць зубы ўласнай шчоткай й добрай пастай як нпр. **Chlorodont.**

Падчас вайны аднак часта мусім агранічвацца і шукаць другіх сродкаў. Калі няма зубной пасты, то гэта ня значыць, што мы павінны зусім занядбаць дагляд зубоў. У гэтым выпадку трэба знайсьці іншыя успамагаўчыя сродкі. Гэта можна зрабіць чысьцячы рана і перадусім вечарам зубы шчоткай і выкалачкай, і паласкаючы летняй вадой Дагляд зубоў зьяўляецца неабходным варункам для здароўя ўсяго цела.

Боль зубоў зьяўляецца асьцярагаўчым сыгналам!

Яна азначае, што мы ня даглядаем зубоў так, як трэба. Дамагайцеся часапісу «Здароўе не зьяўляецца прыпадкам», выдаванага фабрыкай **Chlorodont у Dresden N 6.** Часапіс гэты можна атрымаць бясплатна.

# GUSTAV SCHERWITZ

**Прадажа семян**

**Königsberg (Pr)**

**Усе сарты канюшыны, кармавых і лугавых травaў. Усе віды зялёнага корму.**

**Пасяўное збожжа бобовыя і алейныя расьліны.**

**Выбар гародніны і гародных кветак.**

**Пасяўная рэпа**

**Робіць умовы па разводцы канюшыны, кармавых траў і ўсіх відаў пашы.**

**Ахова расьлін, сродкі па барацьбе з расьліннымі шкоднікамі. Перасадка і перавоз дрэваў і парасткоў.**

---

# Картофлю Збожжа Фрукты

ўва ўсіх высокавартасных сартах гадаваных ўва Ўсходняй Прусіі

дастаўляе пры своечасовым заказе

**Ostpreußische Saatzucht-Gesellsch. m. b. H. „Nordost"**

**Königsberg (Pr)**

Тэлефон: 22420

Тэлегр. адр.: «Нордостсаатэн»

---

**„Нямецкая чорнагаловая мясістая авечка"**

ёсьць найкарысьнейшай авечкай у гаспадарцы на ўсходзе, здаровая, цяжкая, з багатым руном. Дарослыя бараны важаць найменш 100—125 кілё, авечка ў сярэднім 60—75 кілё. Скрыжаваньне звычайнай сялянскай авечкі з чорнагаловай вельмі карыснае.

Дзеля атрыманьня барана заінтарасаваныя гаспадары павінны зьвяртацца да Павятовага Сельска-Гаспадарчага Ураду або да мясцовага амтскамісара.

**Landesverband Ostpr. Schafzüchter, Königsberg (Pr), Kreislerstraße 1**






# Кожны пасеў

навaт найлепшага гатунку, могуць апанаваць заразкі хваробаў. Дзеля гэтага зьяўляецца неабходным вытраўліваньне!

# Ceresan

сухі і плыўкі сродак вытраўліваньня для ўсіх відаў збожжа фірмы

***»Bayer«***

I. G. FARBENINDUSTRIE AKTIENGESELLSCHAFT
PFLANZENSCHUTZ-ABTEILUNG · **LEVERKUSEN**

---

**Я вас правучу, праклятае вараньнё!**

Я свае пасевы абараню ад варон, курэй, галубаў, фазанаў найлепшым сродкам

# Morkit

„Morkit" застосоўваецца таксама проста і танна, як і сухое байцаваньне пасеваў Цэзэранам. Пасеў ад Моркіту ня псуецца.

„Morkit" ня стрымлівае росту расьлін.

фірмы ***»Bayer«***

I. G. FARBENINDUSTRIE AKTIENGESELLSCHAFT
PFLANZENSCHUTZ-ABTEILUNG · **LEVERKUSEN**



# Пэўная сьмерць усім смаўжом

ад 


**Выпрабавана й прызнана ад 1938 году**

«Пэкотот» зьяўляецца ў 100% дзеючай рассыпной прыманкай для нішчэньня ўсіх смаўжоў у полі, агародзе, садзе, склепе і г. д.

Шкоды ад смаўжоў патройнага роду: малы ўраджай, страчаныя грошы і надарма прапробленая праца. І Вы ня выступіце супроць гэтага? Пры дапамозе простага застасаваньня «Пэкотота» можна зьнішчыць да рэшты смаўжы ўсялякага роду.

| | |
|---|---|
| 25 г. торбачкі за . . 0,15 РМ | 1-кр-пакет за . . . 5,05 РМ |
| 125-г.-пакет за . . . 0,67 РМ | 2½-кр-мяшок за . . 9,45 РМ |
| ½-кг-пакет за . . . 2,55 РМ | 5-кр-мяшок за . . . 18,00 РМ |

Найменшая колькасьць: 1½—1 г. на кв. мэтр.

Можна купляць ува ўсіх спэцыяльных крамах. Дзе нельга дастаць, можна замовіць праз вырабляючую фірму:

**Glanzit-Gesellschaft Pfeiffer & Co.**
**Worms-Horchheim**



# LANZ



Як найбольшая фабрыка сельска-гаспадарчых машын у Эўропе, намеціла сабе мэту, каб заўсёды служыць поступу і напружыла ўсю сваю вытворчую здольнасьць для вырабу яшчэ лепшых і больш танных сельска-гаспадарчых машынаў **Лянца.**

Таму кожны селянін выбірае сабе такія дзейныя дапаможнікі, якімі зьяўляюцца:

**ЛЯНЦ-**
**Бульдоґ / Жнеялкі / Малатарні / Прэсы для саломы**



Спэцыяльная фабрыка

**Расьсявальнікау гнаеў і выграбалак бульбы**

Расьсявальнікі гнаеў
„ВЭСТФАЛІЯ“
вядомы ва ўсім сьвеце!
Дасюль распрадана 150 000 штук





Выграбалкі бульбы з пружынавымі вілкамі

„ФОРТШРЫТ“
„РЭКОРД“
„ФАВАРЫТ“

**Kuxmann u. Co., Bielefeld**

# JOHANN CHLUPKA

Bielsk, Reg.-Bez. Bialystok

## Гуртовы гандаль спажывецкімі прадуктамі

ТЭЛЕФОН 32

Банковае конта: Kreissparkasse Bielsk Nr. 10098

Паштовае конта: Königsberg (Pr) 25274





*Schering*

# Сродкі па ахове расьлін

для забясьпечаньня добрага ураджаю



**Абавіт**

памагае насеньню ў прырастаньні. Расьліна хутка разьвіваецца й вырастае здаровай.



**Корбін**

ахоўвае пасевы ад шкоднікаў, воронаў, фазанаў, галубоў і т. д.



**Лепіт**

(ядавіты парашок, зярняткі і газавыя патроны), супроць палявых і хатніх мышэй і другіх шкоднікаў.




можна таксама дастаць брашуры аб іншых сродках аховы раслін у

**Schering A. G., Berlin-Charlottenburg 1**





Больш як **70** гадоў дастаўляе **ВЭРМКЭ:**

ПЛУГІ
БОРАНЫ
СОШКІ
ВАЛЬЦЫ
ДЫСКАВЫЯ БАРОНЫ

да ўсялякай упражы

Сячкарні, малацілкі і інш.



**Rud. Wermke A.-G.**

**Heiligenbeil (Ostpr.)**

**Arnold Thiele & Clauss**

KÖNIGSBERG (PR) · MÜNZSTRASSE 3




*Ein Fachgeschäft für Bindfäden, Bindegarne, Näh-u. Stopfgarne, Sackbänder, Roh-u. Hechelhänfe, Fußmatten, Wäscheleinen und Scheuertücher*



